# КРЫВІНКА

КРАСАВІК

№ 6 (142)

2014 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




ПАСЛЯ КАМПАНІІ

## ЗАСУДЗІЛІ БЕЗ ПЕРАКЛАДЧЫКА, АДВАКАТА І БЕЗ ЯГО САМОГА

**Настаўніка, актывіста руху «За Свабоду», сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, барда Свабоды, журналіста Георгія Станкевіча аштрафавалі за выданьне і распаўсюд самвыдатаўскай газэты «Крывінка».**

Падставай для адміністрацыйнай справы, як высьветлілася, стала «ананімка» сумнеўнага паходжаньня, накіраваная ў прэзыдэнцкую адміністрацыю.

Судзьдзя Бешанковіцкага райсуду Натальля Рэут правяла працэс безь перакладчыка, хоць на гэтым настойваў Георгі Станкевіч. Ён ужо 18 гадоў прынцыпова размаўляе толькі на роднай мове і хваляваўся, што можа не зразумець нейкіх юрыдычных тэрмінаў. Судзьдзя ж апэлявала да таго, што Станкевіч вучыў расейскую мову ў школе, хоць і было гэта 35 гадоў таму:

«Я адхіляю Ваша хадайніцтва наконт перакладчыка, бо Вы можаце размаўляць і па-руску, і па-беларуску. І ў Вашай справе ёсьць дастаткова дакумэнтаў, якія сьведчаць пра гэта. Так што гэтым Вы аказваеце ціск на суд. А я пастанавіла весьці працэс на расейскай мове!»

Судзьдзя не дазволіла спадару Станкевічу і скарыстацца правам на абарону ў судзе. Ён некалькі разоў прасіў перанесьці працэс, каб у Бешанковічы змог прыехаць адвакат зь Менску, рэкамэндаваны сябрамі ГА «БАЖ». У Менску ўжо заключылі дамову на паслугі адваката, заплацілі грошы, але судзьдзя Натальля Рэут чакаць не пагадзілася. Адводы судзьдзі таксама былі адхіленыя. Не дапамаглі ні дзьве скаргі на імя старшыні суду, ні зварот да раённага пракурора. Урэшце ўвечары 2 красавіка судзьдзя выдаліла з залі і самога Георгія Станкевіча, які сваімі хадайніцтвамі наконт адваката і перакладчыка нібыта парушаў правапарадак.

Такім чынам, нават самастойна бараніць уласныя інтарэсы ён ня мог. І ўжо 3 красавіка спадар Станкевіч атрымаў на рукі пастанову пра штраф памерам у 50 базавых велічынь, або 7 з паловай мільёнаў рублёў. А яшчэ ў Георгія Станкевіча засталіся скапіяваныя матэрыялы справы, зь якіх зразумела, чаму так сьпяшалася судзьдзя і што ўвогуле паклала пачатак усёй справе.

Аказваецца, пачалося ўсё з «ананімкі», напісанай нібыта аднавяскоўцамі Станкевіча і адразу дасланай у прэзыдэнцкую адміністрацыю. Там да гэтага допісу паставіліся сур'ёзна, нягледзячы на досыць своеасаблівы зьмест і выгляд: на невялікім аркушыку напісана, што аднавяскоўцы просяць Аляксандра Лукашэнку «спыніць Станкевіча», які нібыта «палівае брудам» беларускія ўлады. І дададзена: «Няхай і яму будзе падаруначак ад Дзядулі Мароза», а зьнізу яшчэ прымаляваная кветачка.

У тое, што ліст зь легкадумным малюнкам маглі напісаць ягоныя вучні, настаўнік замежнай мовы Георгі Станкевіч ня верыць. Катэгарычна ня згодны і з тым, што допіс маглі даслаць ягоныя аднавяскоўцы — пераважна бабулі сталага веку:

Чаму так сьпяшалася судзьдзя, цяпер таксама зразумела: паводле дакумэнтаў са справы Станкевіча, бешанковіцкая міліцыя мусіла даць справаздачу абласному начальству яшчэ да 13 сакавіка. Але не было да чаго прычапіцца: газэту «Крывінка» Георгі Станкевіч выдае на ўласныя сродкі, і таму яна выходзіць нерэгулярна. Апошні нумар і выйшаў толькі напярэдадні мінулых мясцовых выбараў. Тады ж, 22 сакавіка, на бешанковіцкім кірмашы і знайшлі двух сьведак, якія толькі што атрымалі сьвежую газэту.

Паводле судовай пастановы, Георгі Станкевіч парушыў частку 2 артыкула 22.9, які датычыцца дзейнасьці сродкаў масавай інфармацыі. Там указаны цэлы пералік артыкулаў закону аб СМІ, нібыта парушаных заснавальнікам і выдаўцом «Крывінкі». Суд не ўлічыў, што гэта «самвыдат» на 290 асобнікаў, а таму не вымагае ні рэгістрацыі, ні выкананьня іншых патрабаваньняў, якія датычацца выданьняў пэрыядычных.

Для Георгія Станкевіча гэта быў ужо трэці судовы працэс паводле падобных абвінавачваньняў. У 2010 годзе яго ўжо каралі штрафам у 20 базавых велічынь, і справа супраць «Крывінкі» таксама была ініцыяваная падчас выбарчай кампаніі. Тады Георгі Станкевіч таксама, які і сёлета, балятаваўся ў Бешанковіцкі раённы савет. У 2012 годзе штраф быў ужо 40 базавых велічынь. Цяпер ён дасягнуў максымальнага памеру, прадугледжанага адпаведным артыкулам.

Паколькі на настаўніцкі заробак дужа не разжывесься, Георгі Станкевіч трымае вялікую гаспадарку: тры кароўкі, бычка і цялушку. Ён прадае малако, і адміністрацыйную адказнасьць цяпер мусяць «несьці» ягоныя кароўкі:

«Мае кароўкі даюць мне малачко, і гэтыя істоты разумеюць чалавечую ласку, у адрозьненьне ад бешанковіцкіх чыноўнікаў! Каб пагасіць гэты штраф, кароўкі мусяць працаваць два месяцы! Але я не зьбіраюся так проста аддаваць камусьці іхняе малачко! Я яшчэ буду змагацца. Есьць жа і вышэйшыя інстанцыі. Прыкладам, мая заява пра штраф у 2010 годзе чакае разгляду ў ААН, і я думаю, што яе чарга прыйдзе ўжо хутка!»

**Радыё Свабода**

*Партал твайго горада: http://beshankovichy.by*

## УКРАЇНА

*На твой пшанічны каравай*
*хто толькі рот ні разяваў:*
*хто крошкі краў, хто палавініў.*
*За горла бралі і на змор,*
*ты вынесла й Галадамор,*
*і вось цяпер – нажом у сьпіну!*

*Паехаў дах у іх няўжо?!*
*За што яны цябе – нажом?!!*
*Мо запытаешся ў Багдана*
*або ў скажэннага Пятра:*
*чаму на іх наводзіць страх*
*імя нязломнага Майдана?*

*Крамлёўскіх зораў уладар*
*сусветам хоча заўладаць,*
*спрадвечнай ап'янёны марай.*
*Зьбіраецца ён зноў на раць,*
*цябе, Украіна, каб зламаць –*
*сам не пазьбегне Боскай кары.*

*Арлы на прапарах ня сьпяць –*
*ім прагнецца папіраваць.*
*О, апетыт іх адмысловы!*
*Ды не запамяталі ўрок:*
*ня тая птушка, каб Днярпо*
*пераляцець ёй, дзьвюхгаловай!*

*Калі ж расейскі янычар*
*сваіх ня вырачацца мар,*
*й захоча кроў паціць нявінных,*
*гатовай будзь да бітвы зноў*
*і ў шэрагі сваіх сыноў*
*мяне залічвай, Украіна!*

***Г.Станкевіч***

НАША ЖЫЦЦЁ

## БЕЛТЭЛЕКОМ НЕ ПРЫМАЕ ПЛАЦЯЖЫ

**З першага красавіка 2014-га года аператары Белтэлеком у Бешанковічах не прымаюць грошы на аплату мабільных тэлефонаў.**

Але той, хто плаціць за хатнія тэлефоны, а таксама за паслугі ZALA, яшчэ месяц можа плаціць тут.

З першага мая і гэтыя плацяжы прымацца не будуць.

З першага чэрвеня аператары, якія працуюць на Белтэлекоме, будуць звольненыя, а плацяжы прымацца праз інфакіёскі.

**У.Ліпскі**

СПАРТОВЫЯ НАВІНЫ

## ПЛАТА ЗА КАРЫСТАННЕ

**Каб пагуляць у валейбол або пазаймацца на трэнажоры ў спартовай зале, цяпер трэба заплаціць 10 000 рублёў.**

Плата тычыцца не школьнікаў, якія ходзяць на секцыі, а ўсіх іншых.

Дарэчы, платныя паслугі падобнага тыпу аказваюць усе навучальныя ўстановы раёна – школы. Але выпадкаў наведвання спартовых установаў наогул вёсцы, якія і пры бясплатным наведванні былі крайне рэдкія, цяпер практычна няма.

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

## ВЫБАРЫ Ў МСЦІСЛАЎСКІМ РАЁНЕ

**Ніколі і ў галаву не прыйшло б адсочваць выбары ў далёкім ад сталіцы Мсціслаўскім раёне, але людзі дасведчаныя шматзначна параілі пацікавіцца. Пацікавілася і… не паверыла. Бо ў Беларусі знайшоўся рэгіён, у якім прайшлі амаль дэмакратычныя выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў.**

Сенсацыя! Немагчыма! І ўсё ж…

У Мсціслаўскім раёне сапраўды многае было не так, як у іншых.

Па-першае, абсалютна ва ўсіх акругах выбары праходзілі на альтэрнатыўнай аснове. І гэта ў той час, калі, напрыклад, у Віцебскай вобласці «конкурс» у райсаветы складаў усяго 1,1 кандыдата на месца. Гэта значыць таго конкурсу ўвогуле не было: дзе-нідзе па гарадах сустракаліся акругі з некалькімі кандыдатамі, але ў цэлым вобласць засталася «стэрыльнай» ад якой-небудзь альтэрнатывы.

Па-другое, як засведчылі вынікі галасавання, у Мсціслаўскім раёне па большасці акруг кандыдаты літаральна дыхалі адзін аднаму ў спіну. Здаралася, што іх раздзяліў проста лічаныя галасы. А гэта ж трэба было тыя галасы лічыць…

Трэцяе. У Мсціславе вызначыць пераможцу, паглядзеўшы толькі на прозвішча і месца працы кандыдатаў, пазначаныя на выбарчых плакатах, было немагчыма. Бо тут не вялася звычайная гульня ў паддаўкі, калі на адной акрузе сустракаюцца сталяр і дырэктар дрэваапрацоўчага прадпрыемства, даярка і старшыня калгаса, беспрацоўны і галоўны пракурор. Хаця шмат гадоў на беларускіх выбарах менавіта так і было заведзена.

Адным словам, падобнага ў Беларусі ўжо даўно не было. Ды вось здарылася. Праўда, з важнай агаворкай.

Сярод кандыдатаў у дэпутаты Мсціслаўскага раённага Савета не аказалася ніводнага апазіцыянера, дый увогуле ніякіх партыйных кандыдатаў не было. Аніводнага! Нават праўладныя партыі ў выбарах не ўдзельнічалі, хаця ім толькі свісні. У выніку ў Мсціславе «правільныя» кандыдаты змагаліся адзін з адным.

Ды што змагаліся! Рэзаліся, біліся, канкурыравалі!!! Вынікі галасавання часам аказваліся не проста нечаканымі, а сенсацыйнымі!

Ну вось, напрыклад, на каго б вы паставілі, ведаючы, што па адной акрузе балатуюцца намеснік начальніка раённага аддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні і загадчыца дзіцячага садка?

Ясна, што на аднаго з галоўных міліцыянераў раёна. Бо што такое дзіцячы садок? Тым больш што старшыні выбарчых камісій ужо ў тым узросце, калі іхнія дзеці не тое што садкі — школы і інстытуты пазаканчвалі. Зусім іншая справа — адказны за чысціню міліцэйскіх кадраў усяго раёна! Гэта ж не проста важны, а надзвычай патрэбны ў жыцці чалавек, той, каго трэба залагоджваць, з кім трэба сябраваць.

Так разважалі б у любым рэгіёне Беларусі, і з вялікай доляй верагоднасці

*(працяг на стар. 2)*

НАВІНЫ СЯЛА

# ПЕРАДАВАЯ ДАЯРКА АТРЫМОЎВАЕ 4 МІЛЬЁНЫ!

**"Прыпаркаваўшы" свой ровар у адным з хлявоў, даярка з 30-гадовым стажам Іна Ладзік спяшаецца пераапранацца ў рабочую вопратку. На ферме жанчына лічыцца перадавіком. Як "заслужаную даярку" яе не раз ўзнагароджвалі граматамі не толькі абласнога, але і рэспубліканскага значэння. "Я ўжо ўцягнулася ў гэта. Мне, напэўна, лягчэй даецца", - нібы апраўдваючыся, на бягу губляе словы даярка і прыхапкам паказвае сваю гаспадарку.**

У гэтай прафесіі яна амаль усё сваё свядомае жыццё. Увесь гэты час прывыкла спяшацца - кожная хвіліна на рахунку.

Іна Сцяпанаўна адказная за 50 кароў. "Можна было б і да 60 даіць, але месцаў няма", - дэманструе сваю працаздольнасць жанчына. …Каровіна харасство знікае, калі падыходзіш да іх "з тылу". Менавіта з такога ракурсу часцей за ўсё бачаць сваіх "любімцаў" даяркі. І ведаюць кароў хутчэй не "ў твар" , а па вымю. Энергічна працуючы скрабкомічысцячыадпрадуктаў каровінай жыццядзейнасці сваё працоўнае месца, Іна Сцяпанаўна паказвае нам пазнакі ў выглядзе "птушачак" на інфармацыйных таблічках побач з каровамі . Хто аддае малако лягчэй, а хто тужэй - гэтую інфармацыю яна пакідае для "падменнай даяркі".

З выхаднымі на гэтай ферме справы ідуць дрэнна, хоць Іна Ладзік імкнецца не скардзіцца. Ранейдаяркіадпачывалікожныя 4-е суткі. Сёння з-за недахопу людзей жанчынам даводзіцца працаваць з адным выхадных у тыдзень, а часам і ў два.

Інакш як выматвальнай гэтую працу не назавеш. Кароў дояць тры разы на суткі, прычым першая дойка пачынаецца тады, калі большасць вясковых жыхароў працягваюць бачыць сны. Іна Ладзік ставіць будзільнік на 3 раніцы - а палове чацвёртай ужо трэба быць на працы. Ранішняя дойка доўжыцца да 7 гадзін. Потым невялікі перапынак - і а палове дванаццатай трэба зноў быць "на пасту". А палове трэцяй даяркі вяртаюцца дадому, каб вярнуцца на ферму а палове сёмай вечара. Зноў некалькі гадзін дойкі - і толькі бліжэй да 10-й вечара можна адпачыць. Але ў 3 гадзіны раніцы зноў зазвініць будзільнік. Цяжка ўявіць, як можна прыстасавацца да такога рэжыму, але гэтыя жанчыны вытрымліваюць. І дадаюць: гэта зімовы графік, летам будзе значна складаней. Раней 11 вечара пра адпачынак можна нават і не марыць.

Іна Ладзік распавядае, што, акрамя выхадных, калі можна, нарэшце, "адляжацца" , яна любіць вечары перад суботай і нядзеляй. У гэтыя дні, прыходзячы ўвечары з працы, ёй не трэба збіраць дарослага сына на працу - рыхтаваць яму ежу. Сёння яна проста прыйдзе і ляжа спаць, і гэта вялікая радасць. А так вялікую частку часу перабіваецца гадзінным сном то раніцай, то ў абед. Але зноў жа - не летам: дома занадта шмат працы, гаспадарка, градкі. Спаць няма калі. "Бывае, прыйдзеш без сіл, - распавядае жанчына, - ляжаш - паляжыш, а потым перажываеш, што чагосьці не зрабіла па хаце, і з гэтымі згрызотамі сумлення ідзеш на працу. Часу ні на што не хапае".

…Адначасова ў адной даяркі доіцца 3-4 каровы, больш - нельга па стандарту. Як правіла, гэты працэс займае 3-5 хвілін. Тым часам даярка зноў бяжыць у малочную за вадой, зноў падмывае вымя і ставіць абсталяванне на новых кароў. Чым хутчэй рухаешся, тым хутчэй скончыш дойку. І нельга забываць аб якасці: пры налічэнні зарплаты ўлічваецца такі паказчык, як велічыня надояў. У кожнай даяркі усталяваны індывідуальны лічыльнік.

- А як ад даяркі залежыць, колькі малака ў выніку дадуць гэтыя 50 галоў?

- Ну як жа! - Шчыра дзівіцца такому пытанню Іна Ладзік, адна з лідэраў па колькасці надояў на ферме. - Добрасумленна кожную кароўку трэба падмыць, кожную кароўку своечасова падключыць, памасажаваць і прасачыць, каб яна ўсё малако аддала. А не проста так - прыйшла і падаіла. Абнасенніць яе своечасова - мы гэта выяўляем, запісваем у сшытак, і прыязджаюць спецыялісты. Своечасова запусціць, каб карова была з малаком. Праца даяркі вельмі цяжкая і патрабуе ўвагі.

За працавітасць і ўважлівасць Іна Ладзік сёння атрымлівае, на яе думку, зусім няшмат - усяго 4 млн рублёў. І гэта з улікам 30 -гадовага стажу! Ёсць зарплаты і паменш у даярак з гэтай фермы - 2,5-3 млн. У апошні час, лічыць Іна Сцяпанаўна, псіхалагічна стала значна цяжэй працаваць.

- Цяпер абстаноўка ў свеце цяжкая, раней з фінансамі было прасцей, больш атрымлівалі. Тады я магла тэлевізар з зарплаты купіць. А зараз, калі я куплю, тады ў мяне нічога не застанецца.

- А колькі за такую працу трэба плаціць?

- Мінімум 8 000 000, я лічу! Каб людзі сюды ішлі. Бо цяпер няма такіх людзей, як раней. Няма талковых, ідуць толькі пад прымусам, якіх прымушаюць, за дзяцей, напрыклад, плаціць. А каб такія, як мы - 20 гадоў таму, добраахвотна прыходзілі і сумленна працавалі, за кожную карову перажывалі, такіх ужо зусім мала засталося.

Сама Іна прыйшла ў даяркі амаль адразу пасля заканчэння тэхнікума. Змяніла месца жыхарства, год прапрацавала заатэхнікам. Пра такую "кар'еру" не марыла: проста даяркам у той час давалі жыллё. Дзеля дома і ступіла на гэты шлях. А цяпер, правёўшы ў сценах хлява больш за 30 гадоў, безапеляцыйна заяўляе: "Гэта маё".

- Я не ведаю, як растлумачыць. Гэта маё! Я іншых прафесій не ведаю і не ўмею. Гэта вельмі зацягвае. Маці, цётка працавалі даяркамі, другая цётка. 3 5 гадоў дапамагала ім. Гэта, напэўна, прыроджанае.

Сёння жанчына ўжо 4 гады атрымлівае пенсію па стажу. Але да гэтага часу працуе і плануе працягваць "пакуль Бог здароўя дасць". У канцы дойкі яна перамые ўсе калектары, зноў падкіне каровам корм і паспяшаецца дадому з адзінай запаветнай думкай - паспаць. Як ужо 30 гадоў запар.

**Святлана Белавус**
**TUT. BY**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

*(пачатак на стар. 1)*

можна прагназаваць, што на любых іншых выбарах сапраўды менавіта высокапастаўлены ахоўнік правапарадку і перамог бы… Але ў Мсціславе здарыўся цуд. Тут падлічылі галасы! І аказалася, што вопытны педагог Ганна Самойленка паклала важнага міліцэйскага чына Андрэя Пратасевіча на лапаткі, бо за яе прагаласавалі 167 выбаршчыкаў,а за яго — толькі 102.

Сітуацыя тым больш дзіўная, што разрыў, па беларускіх мерках, зусім невялікі. І будзем шчырымі, досыць лёгка было крыху білетэняў за спадарыню Самойленка сапсаваць, а за спадара Пратасевіча – падкінуць. Але ў Мсціславе гэтага не зрабілі. Дзіва дзіўнае!

На яшчэ адной акрузе сышліся прадстаўніца мірнай прафесіі — загадчыца цэнтральнай раённай аптэкі Таццяна Дамарацкая і начальнік Мсціслаўскага раённага дэпартамента «Ахова» Міністэрства ўнутраны спраў Канстанцін Старавойтаў. І тут людзі: аддалі свае галасы зусім не міліцэйскаму бажку раённага ўзроўню. Можна нават сказаць — дэманстратыўна яго «пракінулі», аддаўшы 160 галасоў аптэкарцы і толькі 61 міліцыянеру! Сапраўдны разгром!

Ледзь-ледзь прабіўся ў дэпутаты, крыху рэабілітаваўшы гонар міліцэйскага мундзіра, Раман Косік, начальнік аддзела прафілактыкі правапарушэнняў усё таго ж Мсціслаўскага РАУС. Яму канкурэнцыю складаў намеснік дырэктара ААТ «Мсціслаўлён» Уладзімір Піванкоў. У выніку на гэтай акрузездарыласядаўным-даўно забытая ў Беларусі сітуацыя, калі кожнаму з кандыдатаў сапраўды быў важны кожны выбаршчык і кожны голас. У выніку Раман Косік выйграў з перавагай… усяго ў 9 галасоў!

Проста нейкі азарт бярэ ад такіх лічбаў. Два праўладныя кандыдаты… Не біліся, не размахвалі чамаданамі з кампраматам, не крытыкавалі ўладу, але да апошняга прысутнічала інтрыга — галоўная прыкмета сапраўдных выбараў….

…Вось толькі некаторыя прыклады.

На акрузе сышліся намеснік старшыні мясцовага райспажыўтаварыства і начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама. Вынік: прадстаўнік спажыўтаварыства абышоў прадстаўніцу райвыканкама, пры гэтым з неблагім адрывам.

Просты майстар па рамонце транспарту з хлебазавода і начальніца раённага вузла паштовай сувязі. Выйграў… рамонтнік.

Галоўны аграном райаграпрамтэхснаба і настаўніца пачатковых класаў. 297 галасоў было аддадзена за настаўніцу і толькі 18 — за яе саперніка.

Начальнік раённых электрычных сетак і старшыня маленькага сельсавета. Зноў апляваха: раённага ўзроўню начальнік набірае толькі 15 галасоў з 363 магчымых… Ды апазіцыянерам болей галасоў на выбарах камісіі аддавалі, а тут такое! Адным словам, у Мсціславе адбылося нешта незвычайнае, тое, што яшчэ трэба асэнсаваць.

Я пакуль схіляюся да думкі, што ў раёне правялі нейкі выбарчы эксперымент. Бо хоць улады і кажуць пра высокую яўку выбаршчыкаў, пра актыўнасць людзей, але слухаць гэтыя запэўніванні проста смешна. Ну якая можа быць цікавасць, калі выбіраць няма з каго, калі балатуецца адзін кандыдат ад улады і няма ніякага выбару? Далей так пойдзе — дык Цэнтрвыбаркам трэба будзе ўключаць у штат унутраных войскаў, бо без іх на ўчасткі людзей і не загоніш. Нават танная гарэлка ў буфетах ужо не дапамагае. Хоць дармавую яе дай — алкаголікі з самай раніцы папрыходзяць-панапіваюцца, а як потым забяспечыць «масоўку»

Карацей, да карыкатурнага стану беларускія выбары ўжо «дадэмакратызавалі», далей — толькі галасаванне па павестцы з КДБ.

Цізацікавяццалюдзівыбарамі, калі даць ім магчымасць выбіраць хаця б з «правільных» кандыдатаў? Ці ўдасца стварыць нейкае спаборніцтва, не выпускаючы ў палітычную прастору апазіцыю? Думаю, у Мсціслаўскім раёне апрабавалі гэткія выбарчыя сцэнары. Вось толькі вынікі эксперымента наўрад ці спадабаюцца мясцовым начальнікам, бо яны ўжо даўно адвыклі нават у дробязях быць залежнымі ад волі народа. А значыць, стануць сцяной, знойдуць тысячы прычын, каб нават такі, кастрыраваны, «разгул дэмакратыі» ні ў якім разе не паўтарыўся.

**Святлана Калінкіна,**
**«Народная Воля»**

НАША СПАДЧЫНА

# …МЫ СТРАЦІМ ТУЮ ДЗВІНУ, ЯКУЮ ЛЮБІМ

**Гэта адбудзецца пасля ўводу ў эксплуатацыю каскаду з чатырох ГЭС: Бешанковіцкай, Віцебскай, Полацкай і Верхнядзвінскай.**

Карэспандэнт "Звязды" пагутарыў з адным з аўтараў ідэі правядзення экспедыцыі па даследаванні рэчышча Заходняй Дзвіны, перад тым як вада назаўсёды схавае ўнікальныя краявіды, Дзянісам Юрчаком, намеснікам дэкана гістарычнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава.

"Праз некалькі гадоў мы назаўждыстрацімпершароднае рэчышча Заходняй Дзвіны, вакол якой стагоддзямі цякло мернае жыццё нашых продкаў. Сучасныя тэхналогіі дазваляюць максімальна сабраць інфармацыю аб тым абліччы ракі, якое неўзабаве знікне.

У першую чаргу, варта звярнуць асаблівую ўвагу на магчымасці фота- і відэафіксацыі берагоў ракі, валуноў і водмеляў, выспаў і ўнікальных для Беларусі парогаў, вядомых яшчэ з глыбокай старажытнасці сваім суровым норавам. Яны пасля павышэння ўзроўню вады і стварэння вадасховішчаў, згодна з заяўленым планам будаўніцтва, апынуцца на дне ракі…

Таксама трэба вывучыць тыя месцы, дзе калісьці маглі быць размешчаны прыстані і пераправы. Тут, дарэчы, можна весці гаворку аб неабходнасці комплекснай працы прафесійных дайвераў і археолагаў.

Вынікам магло б стаць стварэнне электроннага архіва матэрыялаў, які ўключае ў сябе тэкставую інфармацыю, фотаздымкі, відэаматэрыялы. На іх аснове ў перспектыве можна было б падрыхтаваць новыя геаграфічныя апісанні ракі, выдаць шэраг ілюстраваных альбомаў па Заходняй Дзвіне, падрыхтаваць відэафільм або цыкл перадач аб галоўнай воднай артэрыі Віцебшчыны."

**Аляксандр Пукшанскі**
**"Звязда"**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ГАЛОЎНАЯ ТЭМА

# ПОЎНЫ БАРДАК

**У чацьвер Лукашэнка правёў нараду пра стан і пэрспэктывы разьвіцьця піваварнай галіны. І абурыўся, што дзяржаўнае прадпрыемства «Крыніца» дрэнна працуе і просіць у дзяржавы льготаў.**

У пятніцу кіраўнік Беларусі паехаў у Слуцак, наведаў ільнокамбінат і мясакамбінат. І зноў абурыўся. Апошнімі месяцамі Лукашэнка толькі і робіць, што абураецца станам эканомікі і дзяржпрадпрыемстваў. Прычым абурэньне нарастае ў арытмэтычнай, калі не геамэтрычнай прагрэсіі.

«Поўны бардак, гаспадара няма, нікому гэта, адчуваю, ня трэба... Гэта што такое? У нас пасьля вайны такога не было!», — зрабіў выснову кіраўнік дзяржавы падчас наведваньня льнокамбінату. Ён, мусіць, не здагадваецца, што паставіў дыягназ усёй эканоміцы краіны, існай сацыяльнай мадэлі, абвешчанай кампаніі мадэрнізацыі.

Дарэчы, пра апошнюю Лукашэнка ўзгадаў на льнозаводзе. «Далажыце, калі павінна быць скончана мадэрнізацыя, дзе новае абсталяваньне. Можа, яно валяецца, як гэтыя трактары і сыравіна», — даручыў Лукашэнка старшыні КДК. Ён ня ведае, але здагадваецца. Дзе ж яшчэ можа быць новае абсталяваньне, як не валяцца!

Наведваньне мясакамбінату ўвогуле скончылася тым, што ён загадаў прыпыніць яго працу, бо высьветлілася, што тут перапрацоўваюць гнілое мяса. «Неадкладна ўдакладніце па краіне, ці ёсьць такі бардак на нейкіх прадпрыемствах», — даручыў Аляксандар Лукашэнка. Пытаньне рытарычнае. Думаю, адказ на яго ведае і сам беларускі лідэр. Калі падыходзіць з такім крытэрам, то трэба прыпыняць працу паловы прадпрыемстваў краіны.

Такім чынам, дыягназ пастаўлены. І зь ім цяжка не пагадзіцца. З тым, што ў беларускай эканоміцы «поўны бардак», згодныя ўсе: улада і апазыцыя, беларускія і замежныя экспэрты. Дый звычайныя абывацелі адчуваюць, што ў краіне «нешта ня так».

Але што ж рабіць? Рэцэпты выздараўленьня, выпісаныя Лукашэнкам, добра вядомыя.

**Па-першае, загад навесьці парадак:**

«Да 1 верасьня тут усё павінна быць вылізана. Зрабіце нармальны льнозавод... За месяц навесьці парадак!.. Да 1 жніўня павінен быць наведзены парадак на ўсіх прадпрыемствах... Улетку я на такія прадпрыемствы езьдзіць ня буду. Але калі з 1 жніўня я, ня дай бог, зайду і мне нешта не спадабаецца — ведаеш, што будзе», — сказаў ён.

Тут, як звычайна, Лукашэнка пярэчыць сам сабе, дае супярэчлівыя загады. Дык парадак навесьці за месяц, да 1 жніўня ці да 1 верасьня? Як можна за 1–4 месяцы навесьці парадак, калі гэтага ня здолелі зрабіць за 20 гадоў?

**Па-другое, дырэктарат перасадзіць у турму:**

«Распачынайце крымінальную справу і мне дакладвайце... Разьбярыцеся ў рамках крымінальнай справы па ўсіх пытаньнях... Усіх вінаватых — у камэру, няхай кампэнсуюць шкоду».

Хоць мэтода ня новая, але апошнім часам яна выкарыстоўваецца ўсё часьцей. У дрэваапрацоўчай галіне ўжо некалькі начальнікаў сядзяць. Дапамагае ня вельмі.

Але турма — гэта ня самае страшнае. На Слуцкім мясакамбінаце Лукашэнка прыдумаў новую, больш вытанчаную кару: закарміць начальнікаў гнілым мясам. «Усё, што сапсавана, хай ядуць. Калі пакінуць іх тут, нікога не выпускаць — няхай ядуць!» — загадаў ён.

Па-трэцяе, зьявіўся новы спосаб дэманстратыўнага прыніжэньня намэнклатуры — накіраваць высокага начальніка на даведзенае да ручкі прадпрыемства. Гэта было апрабавана яшчэ ў 2012 годзе падчас разборак у дрэваапрацоўчай галіне. І вось зноў. «З заўтрашняга дня накіраваць на прадпрыемства (Слуцкі льнозавод. — Аўт.) дырэктарамстаршынёюкамітэту па сельскай гаспадарцы і харчаваньні Менскага аблвыканкаму», — загадаў Лукашэнка. «Не наведзяце — пойдзеце сюды працаваць» (на Слуцкі мясакамбінат. — Аўт.), — сказаў ён, зьвяртаючыся да кіраўніка Менскай вобласьці Сямёна Шапіры. І дадаў, што гэта тычыцца і прэм'ер-міністра зь яго намеснікамі.

Чарговы спэктакль для народу атрымаўся. Ягоны электарат можа быць задаволены, бо любіць, калі прэзыдэнт ганяе мясцовых начальнікаў. Але эканамічнага сэнсу ўсё гэта ня мае. «Поўны бардак» — гэта дыягназ, ганаровая грамата да 20-гадовага юбілею.

**Валер Карбалевіч**
**svaboda.org**

ПАЛІТВЯЗНІ

# ПАЛІТВЯЗЕНЬ ВЫЙШАЎ НА СВАБОДУ

**8 красавіка, у 7 гадзін 55 хвілін з гарадзенскай турмы №1 быў вызвалены 51-гадовы прадпрымальнік з Ваўкавыску Мікалай Аўтуховіч. Раней ветэрана афганскай вайны і грамадскага актывіста праваабарончыя арганізацыі прызналі палітвязнем.**

Ён правёў за кратамі больш за 5 гадоў. Раніцай Аўтуховіча сустракала каля 30 чалавек. Сярод іх - палітыкі Аляксандр Мілінкевіч, Павел Севярынец і Аляксандр Макаеў.

Нагадаем, што прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч быў арыштаваны 8 лютага 2009 года. У траўні 2010-га за захоўванне і перавозку пяці патронаў да паляўнічай вінтоўкі Вярхоўны суд прыгаварыў яго да пяці гадоў і двух месяцаў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Прадпрымальніка прызналі вінаватым па частцы 3 арт. 295 КК (за незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў).

Памілавання не прасіў - не вінаваты!

Зразумела, што Аўтуховічу ў турме не раз прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні на імя беларускага прэзідэнта. Аўтуховіч адмаўляўся. У адным з лістоў на волю ён аргументаваў гэта тым, што мае свае погляды на жыццё і ніколі іх не змяняе. «Я нічога не рабіў дрэннага для Радзімы і народа, не парушаў ніякіх законаў, чаму я павінен звяртацца з прашэннем?» - абураўся тады прадпрымальнік.

Сёння, падчас размовы з журналістамі, ён патлумачыў свае паводзіны тым, што не супрацоўнічае і не ўваходзіць у змову з тымі, хто яго пасадзіў. «Я прыехаў і адразу сказаў, што на гэтую ўладу працаваць не буду», - як адрэзаў, Аўтуховіч.

Дарэчы, датэрміновае вызваленне прадпрымальніка не адбылося, таму што ён адмовіўся падпісваць паперу аб «правапаслухмяных паводзінах», не стаў супрацоўнічаць, «злосным парушальнікам» лічыўся першапачаткова.

Мікалай Аўтуховіч лічыць сваю невінаватасць відавочнай і мае намер дамагчыся, каб усе прызналі - яго пасадзілі «ні за што, ні за што забралі маёмасць, ні за што пакаралі сям'ю». Крымінальная справа за «афіцыйна набытыя» патроны? Няма. Максімум - адміністрацыйнае пакаранне .

Сваю «пяцігодку» былы палітвязень тлумачыць проста: у Беларусі «такая сістэма ўлады»: «Яны не хочуць самі сядзець у турме, таму саджаюць тых, хто іх выкрывае».

2292 лісты!

Па словах Аўтуховіча, выжыць у турме яму дапамагла велізарная падтрымка з волі - 2292 лісты ад сяброў, блізкіх і зусім незнаёмых людзей. Праз перапіску ён знайшоў шмат аднадумцаў. Паводле яго слоў, калі б ніхто не пісаў, было б значна цяжэй .

У турме «трэба быць сабой і заставацца чалавека», перакананы былы палітвязень. Ён неаднаразова казаў як сакамерніка, так і ахове, што паступаць трэба так каб ўчынкі былі бачныя ўсі, але каб за іх ніколі не было сорамна».

**Захар Шчарбакоў**
**БЕЛАПАН**

ФІНАНСЫ

# ДЭНАМІНАЦЫІ НЕ БУДЗЕ?

**Аляксандр Лукашэнка закрануў тэму магчымай дэнамінацыі ў Беларусі. Па ягоных словах, новыя грошы, «прыгожыя, падобныя да еўра» ўжо аддрукаваныя, але для іх уводу патрэбныя «момант, час, каб эканоміка працавала, каб была стабільнасць». Між тым, стабільнасці пакуль няма.**

Апошняя дэнамінацыя праводзілася ў 2000 годзе. Тады з беларускіх купюраў зніклі тры нулі. Зараз незалежныя эканамісты, прынамсі, Леанід Заіка, выказваюць меркаванне, што з заменай грошаў трэба крыху пачакаць, — да тае пары, пакуль долар не будзе каштаваць 10 тысяч рублёў. Тады можна будзе зрабіць курс рубля да долара альбо адзін да аднаго, альбо 1:10. Улічваючы, сённяшні курс рубля, такі час настане даволі хутка.

Але «кратнасць нулёў» — гэта не адзіны фактар для дэнамінацыі. Самы асноўны паказчык, па меркаванні былога старшыні Нацбанка Беларусі Станіслава Багданкевіча — інфляцыя. Дэнамінацыю варта праводзіць толькі тады, калі інфляцыя складае 7–8% (а лепш — 3–5%) на год, і яна стабільна трымаецца ў гэтых межах. Інакш і з новымі грашыма будзе тое ж, што і са старымі: яны пачнуць імкліва «назапашваць» нулі.

А вось з інфляцыяй у нас усё складана. Пры планаваным паказчыку інфляцыі ў 12% за 2013 год насамрэч яна склала, па афіцыйных дадзеных Белстата, 16,5%. Варта адзначыць, што гэты паказчык блізкі да прагнозаў Міжнароднага валютнага фонду, які ў красавіку 2013 года прадказваў інфляцыю ў 16,8%. У тым жа прагнозе МВФ закладваў і інфляцыю на 2014 год — 15,5%. Сусветны банк прагназуе інфляцыю ў Беларусі ў 2014 годзе на ўзроўні 16%.

Беларускі ўрад разлічваў, што ў гэтым годзе інфляцыя складзе 11%. Але за першыя тры месяцы яна дасягнула 3,6% — траціну гадавога прагнозу. У сувязі з гэтым ва ўладных установах бродзіць думка, каб скарэктаваць паказчык гадавой інфляцыі да «сусветных прагнозаў» у 16–17%.

Інфляцыя апераджае прагнозы, а значыць, сапраўды няма стабільнасці і няма ўмоваў для дэнамінацыі.

Эканамічнае становішча краіны дыктуе і іншыя неабходнасці. За два месяцы гэтага года складскія запасы на прадпрыемствах Беларусі выраслі на 480 мільёнаў долараў, і на 1 сакавіка склалі 80,8% ад сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці. То бок, наша прадукцыя ствараецца, але не прадаецца. Зразумела, ствараецца яна за грошы, якія потым, у выніку няпродажу, мы не атрымліваем. Грошы ж трэба аднекуль узяць, і мы бярэм іх «з тумбачкі» — імкліва скарачаюцца золатавалютныя рэзервы краіны.

ЗВР Беларусі скараціліся на 428,5 мільёна долараў у сакавіку, і на 1 красавіка 2014 года склалі 5 715,1 мільёна долараў. За тры месяцы скарачэнне золатавалютных рэзерваў склала 935,76 мільёна долараў. То бок, «крытычную рысу» ЗВР у 8 мільёна долараў мы даўно ўжо перасягнулі.

Наш народ, навучаны горкім досведам 2011-га года, вельмі балюча ўспрыме чарговы абвал рубля, асабліва напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2015 года. Адзінае выйсце з гэтага — заняць яго нечым іншым, каб ён гэтую дэвальвацыю збольшага не заўважыў. Гэта




магчыма: у мінулы годзе рубель «плаўна дэвальваваўся» да долара аж на 12%, і ні ў каго і думак не ўзнікла, што ідзе нейкі анамальны працэс.

Калі, насуперак чаканням эканамістаў, сумясціць дэвальвацыю з дэнамінацыяй, грамадзяне збольшага будуць заклапочаныя тым, каб пераводзіць грошы ў гаманцы ды цэннікі ў крамах са «старых» у «новыя» грошы, ды наадварот. Прыкладам, пасля дэнамінацыі долар стане каштаваць не 10 «новых» рублёў, а 15 альбо 20: ці заўважыць гэта «шараговы працоўны», асабліва калі не будзе ведаць, колькі ж у краме каштуе пляшка «пладова-выгаднага»?

*(скарочана)*

**Сяргей Пульша**
**"Новы час"**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# БЕЛАРУСЬ СПЛЯСАЛА ПОД МОСКОВСКУЮ ДУДКУ

**Вечером 27 марта Беларусь проголосовала в ООН против резолюции о территориальной целостности Украины. Поскольку Александр Лукашенко заявлял ранее о поддержке этой целостности и вообще явно не хотел портить отношения с Киевом, напрашивается вывод: на Минск сильно надавили. Догадайтесь с трех раз, кто.**

За резолюцию Генеральной ассамблеи ООН проголосовали 100 стран, 58 воздержались, 11 высказались против — то есть, по сути, в поддержку российской аннексии Крыма.

Из СНГ на стороне Москвы выступила еще Армения, которую сейчас сватают в Таможенный союз. Остальная компания и вовсе живописна: Боливия, Куба, Северная Корея, Никарагуа, Судан, Сирия, Венесуэла и Зимбабве.

**Долго вилять не получилось**

Ранее в этот же день посол России Александр Суриков на пресс-конференции в Минске поблагодарил Лукашенко за его позицию по Крыму. Имеется в виду недавнее заявление белорусского руководителя, что «Крым де-факто сегодня — часть России».

Это признание, от которого белорусское руководство долго ускользало, привело к отзыву из Минска украинского посла. Зато дипломатия большой восточной соседки, как видим, снисходительно похлопала белорусского союзника по плечу: так держать!

И вот — новая пляска под дудку Москвы в крымском вопросе: голосование против территориальной целостности Украины. Теперь отношения Минска с Киевом омрачаются еще сильнее.

Можно предвидеть, что белорусские власти попытаются еще высказываться в духе «и вашим и нашим», говорить некие приятные слова украинцам, чтобы смягчить впечатление от «прогибов» перед Москвой. Но «возможности для маневра у Лукашенко сужаются», подчеркивает политолог Виктор Мартинович.

В украинском контексте важны не слова, а действия, отметил он в комментарии для Naviny.by. Между тем, считает собеседник, белорусское руководство совершило уже два явных действия в поддержку России: сначала приняло у себя ее авиацию, а теперь вот — поддержало ее агрессию в ООН. Эксперт минского аналитического центра «Стратегия» Валерий Карбалевич считает, что актами поддержки российской аннексии «официальный Минск сделал свой выбор». «Теперь из этой колеи не выпрыгнуть. В критические моменты голос белорусских властей будет звучать в унисон с российским», — сказал аналитик в комментарии для Naviny.by.

По его мнению, сейчас самостоятельный западный вектор внешней политики официального Минска практически отпадает: «Беларусь заняла свое место в окопах холодной войны».

**Пряников у Путина все меньше**

Между тем большой вопрос — насколько щедро будет вознаграждена союзническая верность Лукашенко. С одной стороны — да, отпал в качестве конкурента за российские субсидии Виктор Янукович. Но с другой стороны, у Москвы отпадает стимул делать из Беларуси этакую рекламную витрину для Украины, как это было, пока ее пытались заманить в Таможенный союз.

А самое главное — российская экономика буксует, крымская же авантюра может и вовсе пустить ее под откос. Во всяком случае, пряников у Путина будет становиться все меньше.

А еще Россия может сделать финт ушами и для компенсации своих потерь поднять налог на добычу полезных ископаемых, что автоматом поднимает и входящую цену на энергоресурсы для Беларуси.

Так что чистого выигрыша Минск не получит в любом случае. А может и вовсе остаться с носом. Независимые белорусские экономисты более, чем дипломатичным пассажам господина Сурикова, склонны внимать свежему заявлению первого вице-премьера России Игоря Шувалова: «Россия, Беларусь и Казахстан настолько далеки от понимания в вопросе свободы торговли по ряду товаров, что разрешение этих разногласий может быть вынесено за скобки при подписании договора о Евразийском экономическом союзе в мае 2014 года».

Ранее замминистра финансов России Сергей Шаталов в интервью Рейтер огласил подсчеты: субсидии, которые Россия предоставляет Беларуси и Казахстану, в случае отмены торговых квот и других ограничений вырастут в пять раз, до 30 миллиардов долларов в год. «Это много, — без обиняков резюмировал Шаталов. — Поэтому надо искать решения, в том числе политические».

Иначе говоря, Москва, у которой казна теперь не в лучшем виде, стала скрупулезно считать копейки. А что будет, когда в российских финансах пробьют новые бреши расходы на Крым да последствия западных санкций? Короче, надежды Минска выторговать выгодные условия вхождения в Евразийский экономический союз становятся все более шаткими. А вот издержки от вступления в холодную войну на стороне Москвы придется хлебать большой ложкой.

*(сокращено)*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**
**БЕЛАПАН**

РЭХА ТРАГЕДЫІ

# ВЛАСТИ НЕ ПРИЗНАЮТСЯ...

**Мать приговоренного к расстрелу Владислава Ковалева до трагедии в минском метро не знала, что в Беларуси существует смертная казнь.**

В канун годовщины теракта, который произошел 11 апреля 2011 г., «Салідарнасць» поговорила с Любовью Ковалевой из Витебска о том, что она делает для реабилитации сына, кому был выгоден взрыв в метро, и почему так поспешно расстреляли осужденных за теракт.

— Любовь Ивановна, после расстрела Влада вы сказали о том, что живете ради того, чтобы реабилитировать сына. Какие шаги вы предпринимали в течение двух лет после казни, и что из этого вышло?

— Исчерпав законные возможности добиться справедливости в Беларуси, я написала в Комитет ООН по правам человека жалобу, в которой указала нарушения уголовно-процессуального кодекса во время проведения следствия и суда. Комитет неоднократно обращался к белорусским властям с просьбой не приводить приговор в исполнение.

...Влад не дожил до того дня, когда Комитет вынес решение по делу. Было установлено, что белорусское государство нарушило право на жизнь Влада. Кроме того, Комитет зафиксировал ряд нарушений, допущенных в ходе следствия и суда.

К сожалению, наш суд и государство игнорируют решение Комитета ООН по правам человека, мотивируя это тем, что решения Комитета носят рекомендательный характер.

Недавно мы с дочерью обратились в Генпрокуратуру с заявлением о возбуждении производства по делу Владислава Ковалева в связи со вновь открывшимися обстоятельствам. Нам ответили, что те соображения Комитета по правам человека, которые содержали оценку обстоятельств исследованных и оцененных судом при рассмотрении уголовного дела, не являются основанием для пересмотра и возобновления дела. Это решение мы будем обжаловать.

Я не остановлюсь... Государство приложило максимум усилий, чтобы оговорить ребят, расстрелять их вместо тех людей, которые должны были отвечать за это преступление. Сейчас они ни за что не признаются, что уголовное дело было сфабриковано. Не назовут имена тех, по чьему указанию все это делалось. Нужно, чтобы люди не забывали о том, что были убиты невиновные. Мы будем напоминать им об этом. Я понимаю, что власти хочется об этом скорее забыть. Но этого не будет.

...До теракта в метро я не знала, что у нас в стране существует смертная казнь. Я одна поднимала двоих детей. Когда мне было что-то смотреть, читать? А по телевизору об этом не говорили. Сколько людей было приговорено, а кто знал об этом? Думаю, что и сейчас те, кто не читает новости в интернете, не догадываются о существовании в Беларуси смертной казни.

— Как вы думаете, почему так поспешно приговор был приведен в исполнение?

— Дима Коновалов и Влад были свидетелями фабрикации уголовного дела.

— За эти два года открылись ли какие-то новые обстоятельства в деле, которые могут красноречиво свидетельствовать, что ваш сын и Дмитрий Коновалов были невиновны?

— Это обстоятельства, установленные Комитетом ООН по правам человека. Материалы, переданные в Комитет, были выписаны из уголовного дела. Среди нарушений, названных Комитетом, — пытки, нарушение принципа презумпции невиновности. Во время следствия и судебного процесса должностные лица страны выступали с публичными заявлениями о том, что Влад и Дима виновны, что это они совершили теракт.

Кроме того, во время судебных заседаний к Владу не допускали адвоката. Они только пару раз встречались. В суде могла работать только сторона обвинения, все ходатайства со стороны защиты отклонялись.

— Родные погибших в теракте поддерживали вас?

— Конечно. Мы разговаривали в суде. Я чувствовала, что не одна. Горе нас объединяло.

— Когда с твоими близкими случается горе, задаешься вопросом: за что? Как вы считаете, почему именно Влад стал еще одной жертвой трагедии?

— Влада к этому делу привязали, потому что у них на Диму не было никаких доказательств – абсолютно ничего. Влад должен был давать показания против Димы. Это был единственный свидетель обвинения… …Влад не стал играть роль, которую отвело ему следствие, и поплатился за это жизнью.

— Чувствуете ли вы присутствие Влада? Снится ли вам сын?

— В снах он приходит. Обычно в хорошем настроении. Бывает, Влад торопится, говорит, что некогда ему. Бежит куда-то. Не думаю, что ему там плохо. Но все равно мне не хочется верить в то, что его нет... (Плачет). До сих пор не выдали тело Влада. Мы не знаем, где он похоронен. Этому нет никакого разумного объяснения. ...Я не могу понять, кому стало легче от того, что расстреляли невиновных людей.

*(сокращено)*

**Татьяна Гусева**
**http://gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 15.04.2014 у 16.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.